Цана асобнага нумару 10 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 4 (55). Вільня, Серада 12 студня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Вольная, Незалежная, Злучаная Беларусь!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі.
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## „Зямельная рэформа“.

Сем гадоў таму назад, калі армія Пілсудскага ўцякала з над Бярэзіны, а чырвоная армія хлынула на Польшчу, польскі буржуазны панскі Сойм вынусьціў уставу аб зямельнай рэформе. Паны не маглі самі абараніцца ад чырвонай арміі, затым, каб заахвоціць сялян ісьці на вайну, дакляравалі ім правясьці зямельную рэформу, аддаць часьць сваіх маёнткаў беззямельным і малазямельным сялянам. Як толькі кончылася вайна, зараз польскія ўлады пачалі пяяць зусім іначай. Праўда, далі сваім жаўнерам зямлі, але не з маёнткаў польскіх паноў, а з маёнткаў і фальваркаў забраных уласьнікаў іншае нацыянальнасьці. Паўстала так званае вайсковае асадніцтва на беларускіх і ўкраінскіх землях. Аб фактычнай зямельнай рэформе, якой дамагаецца эканамічны стан вёскі, польскія ўлады не клапаціліся і ня будуць клапаціцца. З усяго бачым, што кожны новы год жыцьця ў Польшчы не прыбліжае разьвязку пытаньня аб радыкальнай зямельнай рэформе, а яшчэ аддаляе яе. Першую ўставу аб зямельнай рэформе польскі Сойм замяніў на іншую, пры гэтым перадусім абясьпечыў інтарэсы паноў-земляўласьнікаў і зусім абмінуў інтарэсы беззямельных і малазямельных сялян. Другая ўстава аб зямельнай рэформе і асадніцтве з 1925-га году прадбачыць перш-на-перш прыватную парцэляцыю за грошы, гэта значыць, што той хто мае грошы, можа купляць ад паноў зямлю. Але-ж на такую парцэляцыю не патрэбна ніякай уставы аб зямельнай рэформе! Тут патрэбна такая зямельная рэформа, каб кожны найбяднейшы селянін малазямельны, ці беззямельны атрымаў столькі зямлі, сколькі можа ўрабіць. Тымчасам, як бачым, польскія ўрады ня думалі і ня думаюць даць зямлю тым, якія найбольш яе патрабуюць.

Апошні польскі ўрад марш. Пілсудскага пайшоў яшчэ далей чымся яго папярэднікі, каб зусім зьнівэчыць справу зямельнае рэформы. Паводле на'т цяперашняй уставы кожны год павінна быць распарцэлявана 200.000 ha (гэктараў) зямлі. Але ўрад Пілсудскага, у якім сядзяць абшарнікі, ня хоча выконваць і гэтае ўставы, бо ў сваім распараджэньні аб прымусовым выкупе маёнткаў у бягучым годзе вызначыў да парцэляцыі 350 маёнткаў з абшарам зямлі на агульную суму 49.661 ha. З гэтага больш, што прадусім будзе прыватная дабравольная парцэляцыя за доляры, або за залатыя рублі, бо абшарнікі інакш не прадаюць зямлі, як за чужыя грошы, а не за свае польскія. З невялічкага ліку 49 тысячаў ha прымусова вызначанай зямлі да парцэляцыі, ёсьць ведама, малазямельныя сяляне-Беларусы нічога не атрымаюць, бо ўся яна пойдзе ў рукі Палякаў, а на нашых землях у рукі польскіх каляністых.

Дык вось, гэты год не прынясе нам на'т і маленечкай палёгкі ў справе надзяленьня зямлёй беззямельных і малазямельных сялян-Беларусаў. Наступныя гады будуць такія самыя, бо ў Польшчы пануе ўлада паноў і буржуазіі. Гэтая ўлада будзе бараніць інтарэсы толькі багатых людзей, а бедны селянін і работнік мусіць быць эксплёатаваны праз клясы дармаедаў, якія жывуць коштам працоўнага народу. Хоць, па ліку, гэтых дармаедаў ёсьць шмат менш за тых, што самі працуюць на чорны кавалак хлеба, але, пакуль-што, улада знаходзіцца ў іх руках, бо яны ў сваім часе арганізаваліся і кіруюць усім палітычным жыцьцём. Пакуль улада будзе ў руках паноў і буржуазіі, датуль ня будзе запраўднай зямельнай рэформы, якая-б мела на мэце социяльнае паляпшэньне шырокіх гушчаў малазямельнага сялянства. Усялякая радыкальная зямельная рэформа будзе сьмерцяй для паноў, бо яны ня будуць магчы эксплёатаваць сялянства і парабкаў, а таксама работнікаў, бо прамысловасьць не мае шансаў на разьвіцьцё. Дык зусім зразумела, што паны самахоць не надпішуць ніякага запраўднага закону аб зямельнай рэформе. Такі закон можа быць выданы толькі сялянскай уладай, толькі ўладай працоўнага народу. Да такой улады можам дайсьці толькі дарогай нацыянальнага ўсьведамленьня Беларусаў-сялян і праз сваю моцную стальную арганізацыю, якая будзе крапчэйшай за арганізацыю паноў і буржуазіі.

*Зьмагар А.*

## Закладайце прафэс. зямляробскія саюзы!

Нашые грамадзяне зямляробы добра ўжо праканаліся, што заложаныя ў нашай Заходняй Беларусі земляробскія сувязі — пэпэсамі (Z. Z. R. R. P.) Прафэсыянальныя Саюзы Работнікаў Рольных Рэчыпаспалітай Польскай, ня толькі не даюць ім ні якое карысьці, але наагул столькі шкодныя для сялянскага жыцьця, колькі зьяўляецца шкоднаю для нас Беларусаў сама пэпэс (ППС), што кожнаму з нас добра ведама.

Пэпэсы падпанкі, залажыўшы гэтыя саюзы бяз усякае адказнасьці перад іх сябрамі, крывадушна працуюць на карысьць свае кішані, нічуць няспачуваючы тым, хто іх утрымлівае і зьяўляецца ахвяраю іхняе работы.

На гэта вось жменя фактаў. Ня кончыўся яшчэ квартал, як ужо функцыянарыюш Z. R. R. R. P. ходзіць ад двара да двара, ад сяла да сяла зьбіраючы сяброўскія складкі саюзу дапамаговай касы і інш. На наступны квартал, ня лічучыся з тым, ці ёсьць у цябе грошы заплаціць ці не, а давай, бо „wykreślę ze związku“,— кажа функціанарыюш. Мусіш апошні пуд жыта прадаць, а заплаціць, бо пачакаць ня хоча... А калі ў парабка здарылася якая небудзь справа з панам, дык ці мо' захоча прысьці памагчы?!...
Мусіш прысьці сам дый ні раз, а некалькі разоў дый яшчэ з бутэлькай, бо так ня захоча напісаць заяву ў „Камісію Раз'емчую“, як гэта водзіцца ў некаторых аддзелах. А на камісіі ці хоць імкнецца, маўчыць седзячы як у рот вады набраўшы, а што Камісія пастанове за тое падпісваецца не спрачаючыся. А калі што і ўдасца высудзіць, дык ізноў часта бывае ня вырвеш з пана, нават некалькі разоў прывозячы каморніка, калі той, як ведама, такі самы, а мо' на'т і лепшы падпанак і даўно сядзіць у абшарніцкай кішані.

Быў у мінулым годзе 8 лістапада у Варшаве XX кангрэс ППС, на які езьдзілі з вёсак і з двароў сяляне. Дык што-ж, на дамаганьнэ сялянствам зямлі бяз выкупу, пэпэсаўцы крычалі, што сяляне мусяць быць надзеляны зямлёю, але за грошы. Такім чынам бачым, што пэпэсаўскія саюзы, ня толькі нічога добрага нам ня робяць, але наадварот, пагаршаюць і без таго ўжо пралетарскае жыцьцё нашага селяніна, здзіраючы апошні крывавым потам зароблены з яго грош на розныя складкі.

Беларусы сяляне мусяць мець свае зямляробскія саюзы заложаныя па ініцыятыве Беларускага Сялянскага Саюзу, а не на здрадніцкіх асновах праграмы ППС. Сяляне і парабкі! Дык творым свае нацыянальныя прафэсыянальныя зямляробскія саюзы пад магутным сьцягам Сялянскага Саюзу, які імкнецца да вызваленьня сялян з пад ярма эксплёатацыі і гвалту!

Усе, як адзін, пакіньма саюзы ППС, якія пераважна апіраюцца на нашым сялянстве і якія толькі могуць скасавацца ў нас тады, як мы выступім з іх, г. ё. перастанем быць іх сябрамі. Тады і сама ППС апусьціць нашыя вёскі і месты, бо праканаецца, што ня мае спрыяючых сабе элемэнтаў!... Сяляне! Зразумейма, што толькі праз саюзы зможам скінуць з сябе ўсе беды, якія мы церпім ад веку і ў сучасным нашым жыцьці, што толькі варункі жыцьця парабка нашага могуць быць палепшаны праз работніцкія зямляробскія саюзы, урэшце, што толькі праз саюзы сяляне могуць дапяць лепшага ў будучыне, чаго ўжо дапялі сяляне іншых краёў. Лепшыя сыны нашага сялянства вы першыя павінны загаварыць аб гэнай справе, вы першыя павінны адазвацца на патрэбы нашага сялянства! Дык хутчэй да арганізацыі цэнтральнага саюзу работнікаў-зямляробаў, які тады зможа пры сустрэчнай помачы прадстаўнікоў Сялянскага Саюзу працаваць на абшарах Заходняе Беларусі, закладаючы свае аддзелы ў местах і мястэчках!

*Ал. Патоцкі.*

## Як упісацца у Беларускі Сялянскі Саюз.

Падпішчык, які добра зразумеў, што Беларускі Сялянскі Сяюз зьяўляецца партыяй, якая запраўды адважна бароніць інтэрэсы нашага сялянства, павінен неадкладна ўпісацца ў свой Саюз. З гэтае мэтай трэба паслаць у Цэнтральны Камітэт аткрытку (Вільня, Полацкая 4—7) з просьбай прыслаць бляшкеты заявы і анкеты, інструкцыі і праграму.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Конфэрэнцыя літоўскіх дыплёматаў.

У канцы гэтага месяца маецца адбыцца ў Коўне конфэрэнцыя літоўскіх заграмічных прадстаўнікоў. Конфэрэнцыя мае на мэце разважаць сьцяг стправаў аб літоўскай палітыцы.

### Мытная вунія паміж Літвой і Нямеччынай.

Апошнімі днямі прыехаў у Коўна літоўскі прадстаўнік у Бэрліне Сідзікаўскас, які цяпер вядзе гутаркі з Немцамі ў справе заключеньня гандлёвага трактату. У гэтым трактаце мае быць пункт аб увядзеньні мытнай вуніі паміж Нямеччынай і Літвой.

Апрача таго вядуцца гутаркі аб заграмічнай пазыцы для Літвы.

### Літоўска-савецкія згаворы будуць узноўлены ў Коўне.

Газэта „Elfa" піша: Чуткі, што савецка-літоўскія згаворы будуць нібы перарваны, ня ёсьць праўдзівымі. Згаворы гэтыя будуць узноўлены ў канцы студня або на пачатку лютага. Можа быць, што на гэты раз яны будуць вясьціся ў Коўне.

### Балтыцкага саюзу ня будзе.

Ковенская ўрадовая газэта „Lietuva" зьмяшчае стацьцю, у якой абгаварвае справу саюзу з Латвіяй і Эстоніяй. Гэтая газэта піша, што саюз ня будзе актуальным да тэй пары, пакуль Вільня будзе аставацца пад Польшчай, бо для Латвіі і Эстоніі Польшча зьяўляецца саюзнікам а для Літвы ворагом.

### Вялікае трасеньне зямлі.

У ночы перад Новым Годам на Каліфорнскім паўвостраве ў Амэрыцы пры Мэксыканскай граніцы землятрасеньне зьнішчыла да шчэнту два месты: Калексыко і Мэксыкалі. Зямля дрыжала з перарывамі. Дамы на вуліцах раўняла з зямлёй. Часьць места, дзе былі заезды і багатыя крамы зьнішчана саўсім. Шкоды аблічаюцца на некалькі мільёнаў даляраў. Першы раз зямля дрыгнула роўна ў 12 гадз. ночы. У гатэлях (заездах) і дамох людзі зьбіраліся спатыкаць Новы Год, калі разам усіх ахапіў перапалох. Пачуўшы дрыжэньне сталі выскакваць на вуліцы, але тут гінулі пад валіўшыміся дамамі. Электрычная сецьпералася і места раптам асталося ў пацёмку. Палопаліся трубы вадацягу і дамы і вуліцы сталі заліваціца вадой. Некаторыя дамы загарэліся. Дрыгатаньне зямлі чуваць было і Мэксыканскай часьці Каліфорніі. Мэксыканскі ўрад абвясьціў у сваей часьці гэтага паўвострава ваенны стан. Трасеньне зямлі чуваць было на ўсім берагу Ціхага акеяну (Пацифіку).

Ніколі ня зьніштажай сваей роднай газэты. Прачытаўшы дай яе суседу.

## Р А Б.

У гору зрок,
Да сонца зрок,
Наперад скок,
Назад ні крок!
Ўжо Раб выйшаў незнарок.

У вочах кроў,
На целе кроў,
Спамін гадоў,
Спамін сьлядоў,
Спамін крывавых бізуноў...

«Пракляты хам,
«Нягодны хам,
«Ён грозіць нам,
«Крычыць «Аддам!»
«Ён грозіць нам, зямлі панам.

«У поміты звон
«У волі звон
«З усіх старон,
«Дзе ступіць ён,
«Плыве да чысьценкіх вакон»...

Працоўны сын,
Мазольны сын,
Прэ, як адзін
З брудных нізін
Мільён галоў зь мільёнам сьпін.

«Страшэнны рок,
«Няшчасны рок,
«Так, як прарок,
«Прарочыць змрок;
«Палацу змрок дасьць Працы крок!

«Мазольны сьлед,
«Ты, хамскі сьлед,
«Прад'знака бед,
«Бо ў лапцях дзед
«Ідзе адважна ў белы сьвет»..

Народны гнеў,
Галодны гнеў,
Ужо дасьпеў,
Ужо здужэў,
І крыўдзе ў вочы паглядзеў.

Я страшны Раб,
Нявольны Раб,
Бо немагла-б
І не прышла-б,
Ніколі праўда не знайшла-б.

Маіх вачоў,
Маіх грудзёў,
Маіх грамоў
Ад бізуноў
Не паказаў я-б для паноў...

Гудзі гудок!
Трашчы гудок!
Прыкодзіць рок,
Наперад крок!
За Беларусь ідзі, браток!

*Фр. Грышкевіч.*

# НАВІНЫ

— **Аб вучыцельскіх кваліфікацыях.** Міністэрства Асьветы выдала распараджэньне ў справе кваліфікацыі вучыцялёў сярэдніх школаў. Паводле гэтага распараджэньня вучыцялі сярэдніх школаў, якія пачалі практыку перад 1923 годам і ня маюць поўных кваліфікацыяў, будуць магчы вучыць толькі да 1928 г. калі да гэтага часу не дастануць поўнай кваліфікацыі.

— **Грунтавы падатак ад лучанай зямлі ня будуць сьцягваць.** На аснове арт. 12 уставы аб злучэньню зямлі (грунтаў), якая была абвешчана ў „Дн. Уст." за 1926 г. Землі гэныя звальняюцца ад дзяржаўнага зямельнага падатку ў працягу двух гадоў пачынаючы ад даты зацьверджаньня земскім урадам праекту злучэньня.

Звальненьне ад гэтага падатку ня мае месца для тых зямель, якія былі ўжо звольнены ад аплат за тэхнічныя работы ў сувязі са злучэньнем грунтаў.

Зьнясеньне гэтага падатку будзе рабіцца зараз-жа па атрыманьню ў дзяржаўных касах паведамленьня ад міністэрства зямельных рэформаў. Ніякіх заяваў інтэрэсанты не патрабуюць падаваць.

— **Пазыкі на штучны гной.** Дзяржаўны Зямельны банк паведамляе, што ён ужо пачаў выдаваць пазыкі на штучны гной на год 1927. Штучныя гнаі напавер можа атрымаць за пасярэдніцтвам усялякіх грамадзкіх арганізацыяў як зямельных, гандлёвых, пазычкавых касаў паветавых, валасных і г. д. У тых мясцовасьцях, дзе гэткіх арганізацыяў няма, пазыка можа быць давана земляробам, якія належаць да зямельных гурткоў (kółek rolniczych).

Зямельны Банк пазычае гэткія штучныя гнаі: азотняк, супэрфосфат, салетра, томасыпа, паташовая соль і каініт.

Час сплаты пазыкі вызначаны на 15 лістапада 1927 г. Апрацэнтаваньне крэдыту будзе выносіць 12% у год.

Падрабязныя інфармацыі ў гэтай справе можна атрымаць у аддзеле Дзяржаўнага Зямельнага Банку ў Вільні, вул. Вялікая Пагулянка № 24.

Цікава колькі скарыстаюць беларускія сяляне з гэтых пазык, бо гэтыя пазыкі пераважна прызнаюцца паном?!

— **Зьезд літоўскіх вучыцялёў.** 30 і 31 л. г. адбыўся ў Вільні агульны зьезд вучыцялёў літоўскага вучыцельскага саюзу. Лік зьехаўшыхся быў даволі вялікі. Ня было толькі вучыцялёў сярэдніх школаў з Вільні.

Распачала зьезд старшыня дагэтуляшняга ўраду саюзу гр. П. Тамулевіч.

Потым адбыліся выбары. На павадыра ўраду саюзу выбралі аднагалосна гр. Паўлюка Каразыя, а на сакрэтароў гр. гр. Гараднічага і Каўкіліс. Ад імені ўсяго грамадзянства зьезд правітаў павадыра літоўскага камітэту д-ра Данілу Альсэйку.

На паданую ўрадам саюзу прапазыцыю зьезд прыняў дзьве рэзалюцыі: 1) аб праўным становішчу літоўскіх школаў і вучыцялёў і 2 аб працы вучыцялёў сярод народу.

На першую рэзалюцыю зьезд прыгаварыў: 1) каб істнаваньне школаў і вучыцялёў было добра ўмацавана. Гэта значыць, каб канцэсыі на школы былі даваны не на адзін год, а на час неабмежаваны, а таксама, каб лёяльнасьць вучыцялёў была ўстаноўлена не на аснове па-

шмат хто сабраўся, бо суседнія стрэхі пуставалі і мы чулі галасы, напэўна ішоўшыя ад званіцы.

Але прайсьці туды было надта-ж небясьпечна.

— Гэта немагчыма, сказаў Пётра, дом Рэмбо лішне высокі. Трэ' было-б драбіны.

— Я ўсё-ж такі пайду спрабую, адказаў Цыпрук. Калі не дайду — вярнуся. Каліб ўдалося, перайшлі-б мы ўсе туды, дзяўчат-жа перанесьлі-б.

Я яго пусьціў. Плян быў добры. Трэ' было спробаваць. Учапіўшыся за зялезны вус у коміне падняўся ён на суседні дом, тады калі яго Эмэ, падняўшы галаву і ўбачыўшы, што мужыка няма, падняла гвалт:

— Дзе ён? Я ня хачу каб ён пакідаў мяне. Мы жылі разам, разам і памром.

Угледзіўшы яго на вярху дому, рынулася яна па стрэсе разам з дзяцьмі і закрычэла:

— Цыпрук, пачакай мяне. Я пайду з табой, я хачу памерці разам з табой.

Яна не адступала. Ён, звесіўшыся, угаварываў яе, што робіць гэта дзеля ратунку нас усіх, што ён вернецца. Але яна, бы няпрытомная, трасла галавой і паўтарала:

— Я пайду з табой, я пайду з табой. Што гэта табе шкодзіць? Я пайду з табой.

І ён мусіў узяць дзяцей, пасьля памог ёй самой узлесьці. З грэбня дома мы маглі іх добра сачыць вачыма. Ішлі не сьпяшаючыся. Яна ўзяла на рукі дзяцей, якія пачалі плакаць, а ён што-крок абарачываўся і падтрымліваў яе.

— Пакінь яе ў бясьпечным месцы і варочайся хутчэй назад, крыкнуў я.

Відаць было як ён махаў рукой, але адказу мы не дачулісь за шумам вады. Скора яны зьніклі, спусціўшыся на ніжэйшы ад першага дом, а праз пяць мінут паказаліся на трэцім доме, на якім дах, відаць, быў вельмі пакаты, бо паўзьлі яны на каленях уздоўж страхі.

Мяне значэўку ахапіла жуда. Стаў я крычаць са ўсей сілы, прылажыўшы рукі да вуснаў:

— Вярніцеся! Вярніцеся!

Пётра, Якуб, Гаспар гэтаксама крычэлі, каб яны вярнуліся. Наш голас спыніў іх на хвіліну, аднак незабавам папаўзлі яны далей. Хутка знайшліся яны на заломе, што робіць вуліца перад домам Рэмбо—высокай будынінай, вышэйшай ад суседніх хат прынамсі на мэтры тры. Момант яны хісталіся.

Пасьля Цыпрук наш палез па коміне, бы той кот. Эмэ трэ' было чакаць; стаяла яна на адным месцы сярод даху і чакала.

Мы бачылі быццам на далоні, як яна стаяла там, тулячы да грудзей сваіх дзяцей. Уся чорная, на фоне яснага неба, яна выглядала як валотка. Тады-то і здарылася бяда.

Дом Рэмбо прызначаўся дзеля прамысловых варстатаў, а дзеля таго пабудаваны быў не надта моцна. Тады, калі вада, што ляцела вуліцай, проста напірала на яго, мне здавалася, што ён тросься ад гэтае навалы. Гледзячы на Цыпрука, які ішоў па ім, мне займала дух. Раптам данёсься да нас нейкісь грохат. Месяц паказаўся на небе; круглы, жоўтатвары, плыў па ім і асьвятляў, бы лямпай, вялізарнае возера. Нават найменшая драбяза з катастрофы не ўкрылася ад нашых вочаў. Рухнуў дом Рэмбо. Крык вырваўся з нашых грудзяў, калі мы пабачылі, што Цыпрук зьнік. Вада шуганула ўверх з-пад заваліўшайся страхі і ізноў усё сьціхла, абрус выраўняўся. Эмэ з дзьвума дзяцьмі стаяла і далей на суседнім доме. Перш на-перш яна затраслася як у канвульсыях, а пасьля з распачы пачала скугаліць, скугаліць працяжна, бы той пёс, ашалелы з перапугу.

— Мы ня можам яе пакінуць так, каб яна тамака згінула, адазваўся Якуб, — трэба ісьці туды.

І ён скіраваўся да суседняга дому. У тымсамым часе рухнуў і другі дом. Дарога была адцята. Кабеты нашы пазакрывалі вочы рукамі, мы-ж пастаўшы на калені, выцягавалі рукі, плакалі і прасілі зьлітаваньня.

На страсе ўвесь час відаць была Эмэ, якая туліла да сябе абоіх дзяцей і яшчэ галасьней выла сярод ночы.

(Далей будзе).

**Дык кожны, хто ўмее чытаць, спяшайся выпісаць сваю газэту „Сялянскую Ніву".**

